# Ахова птушак Бацькаўшчыны

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

BirdLife INTERNATIONAL PARTNER

www.ptushki.org

№ 3(42) - 2010




Белолобые гуси. Фото А.Клещука

# Новые правила ведения охоты – первый шаг сделан

**23 июля 2010 года Президентом Республики Беларусь утверждены новые Правила ведения охоты и охотничьего хозяйства (Указ №586 от 23 июля 2010 года). Ожидается, что Правила вступят в силу с 23 ноября 2010 года.**

Введению новых Правил предшествовала обширная общественная дискуссия, касающаяся необходимости прекращения весенней охоты на водно-болотных птиц в Республике Беларусь. Напомним, что АПБ неоднократно обращалась по данному вопросу в госструктуры (Минлесхоз, Минприроды, Администрация Президента РБ), а предложения АПБ были подкреплены заключениями ведущих научных учреждений, позициями общественных и религиозных организаций Беларуси, а также подписями свыше 20 тысяч граждан страны.

В ответах, полученных на обращения АПБ от Минлесхоза, говорилось о том, что планируется введение изменений, направленных на минимизацию влияния охоты на популяции водоплавающих. И действительно, новые Правила содержат ряд существенных изменений, в том числе и в области охоты на водно-болотных птиц.

Так, в новой редакции Правил сокращен список видов уток, на которые будет разрешена охота весной – в списке разрешенных к добыче видов остаются только селезни кряквы, исключена охота с подхода на гусей. Эти изменения являются значительными и их нужно приветствовать.

В то же время, целый ряд рекомендаций Национальной академии наук Беларуси, предлагаемых на переходный период к полному закрытию охоты на водно-болотных птиц, не был учтен. В частности, НАН Беларуси рекомендовала введение ограничений по числу добытых птиц, запрет на охоту на гусей в водно-болотных угодьях, запрет на использование электронных манков и т. д. Без этих ограничительных мер новые Правила, к сожалению, никак не помогают решить проблему катастрофического сокращения основного охотничьего вида птиц – кряквы.

**Продолжение читайте на стр. 2**

# Гродна на дзень стаў цэнтрам экалагічнага жыцця краіны

**28 жніўня ў Гродна прайшоў VII Рэспубліканскі экалагічны форум, арганізаваны Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. З самай раніцы ліў дождж, дзень мусіў быць пахмурны. Аднак пазней надвор'е злітавалася над намі, і наведвальнікі змаглі без перашкод агледзець прадстаўленыя на выставе экспазіцыі.**

Вялікай папулярнасцю карысталася акцыя АПБ па скалочванню домікаў для пустальгі, якой кіраваў Дзяніс Кіцель, наш новы спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях. Дзеці і дарослыя, у тым ліку і прадстаўнікі афіцыяльных дэлегацый, спрабавалі свае сілы ў пілаванні дошак і забіванні цвікоў. Усяго было пабудавана чатыры домікі, на якіх "будаўнікі" пакінулі свае пажаданні іх будучым насельнікам.

Таксама мы прапаноўвалі ўсім ахвотным пакаштаваць брусніцы як сімвал адраджэння балотаў. Нагадаем, што АПБ рэалізуе праект па паўторнаму забалочванню раней асушаных тарфянікаў.

Адзіным засмучэннем была наяўнасць мноства пудзіл. Прычым стаялі яны не толькі ў палатках БТПР і Музея прыроды экалогіі, але нават каля "Лідскай мукі". Можна толькі спадзявацца, што ў будучым Чырвоная кніга і пудзіла занесенай у яе рысі ў адным месцы будуць успрымацца як парадокс, а не як наглядны дапаможнік па знікаючых відах.

**Ціхно Кацярына, спецыяліст па развіццю арганізацыі**



Свой унёсак у захаванне пустальгі зрабіў і першы намеснік Міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Кулік У.В. Фота В. Фянчука

## Наш природоохранный парадокс

Отмечая в целом положительную направленность изменений, нельзя не отметить и нововведения иного плана. Новые, более щадящие правила в области весенней охоты не будут действовать на территориях, предоставленных в безвозмездное пользование Государственным природоохранным учреждениям (ГПУ), лесохозяйственным организациям Управления делами Президента Республики Беларусь. На этих территориях все останется по-прежнему: весенняя охота на 7 видов уток, охота с подхода на гусей, охота в течение целого светового дня и т. д.

Если трактовать текст напрямую, то старые правила не будут распространяться непосредственно на территорию ГПУ (в данном случае – Национальные парки и заповедники), а только на территории созданных этими ГПУ лесоохотничьих хозяйств. Хотя в любом случае, притязание на значительные послабления в области охотпользования со стороны администраций природоохранных территорий высшего уровня, призванных задавать курс в природоохранном движении, выглядят несколько странно. В результате, островками повышенной охотничьей активности останутся такие значимые природные территории, как озера Выгонощанское и Бобровичское, участки поймы реки Припять и другие территории. Более того, можно ожидать еще большее усиление охотничьего пресса эти территории, так как их привлекательность вырастет и для белорусских охотников.



Самец широконоски весной. Фото В.Козловского

**Сравнительная таблица изменений в Правилах ведения охотничьего хозяйства и охоты в отношении охоты на птиц.**

| Охотничьи виды | Изменения | Для территорий, переданных в пользование Управлению делами Президента РБ | Рекомендации НАН Беларуси, не нашедшие отражения в новой редакции Правил |
|---|---|---|---|
| **Глухарь, тетерев** | Сокращены сроки: с 20 марта по 30 апреля (было с 20 марта по 10 мая) | Как и на остальных территориях | |
| **Гуси – весенняя охота** | Добавлен новый вид – казарка канадская<br>Исключена охота с подхода.<br>Введен период покоя с 11 до 18 часов. | Оставлена охота с подхода.<br>Нет периода покоя | Исключить серого гуся из числа охотничьих видов<br>Разрешить охоту на гусей только на сельхозугодьях. |
| **Утки – весенняя охота** | Список видов сокращен с 7 до 1 - разрешена охота на селезней кряквы. | Разрешена охота на селезней кряквы, чирка-трескунка, чирка-свистунка, красноголовой чернети, хохлатой чернети, широконоски, серой утки. | Ввести ограничения в 2 добытых птицы за охоту.<br>Вести охоту только с подсадной уткой.<br>Сроки охоты сократить до 2 недель |
| **Гуси – осенняя охота** | Срок начала осенней охоты перенесен со второй субботы августа на третью субботу сентября. | Как и на остальных территориях | |

## С точки зрения серого гуся...

В одном из своих ответов АПБ Минлесхоз пишет о нецелесообразности исключения серого гуся из числа охотничьих видов. В частности в письме отмечено, что «При введении запрета на охоту только на серого гуся охотник, случайно добывший его, автоматически становится нарушителем Правил ведения охотничьего хозяйства и может быть привлечен к ответственности за незаконную охоту...».

Данная позиция Минлесхоза нашла отражение и в новой редакции Правил ведения охоты и охотничьего хозяйства. Изменения затронули лишь осеннюю охоту на серого гуся, которая, как и охота на все виды гусей, будет начинаться на месяц позже.

Данная позиция не выдерживает никакой критики. По сути – это оправдание неумения охотников различать охотничьи виды. Существует много других схожих с охотничьими видов птиц, различать которые необходимо учиться. Но это автоматически не влечет их включение в список охотничьих.

С точки же зрения серого гуся, перенос на один месяц сроков осенней охоты едва ли является существенными шагом. Весенняя охота на гусей, оставленная в полном объеме, полностью перекрывается со сроками его гнездования. И поэтому дополнительному месяцу «спокойной жизни» осенью большинству серых гусей едва ли доведется порадоваться.

## Вместо послесловия

Таким образом, новой редакцией Правил ведения охоты и охотничьего хозяйства предусмотрен ряд мер по снижению влияния весенней охоты на водно-болотных птиц. Данные изменения, безусловно, будут содействовать смягчению пресса охоты на мигрирующих и гнездящихся водно-болотных птиц. В то же время, избирательность применения мер по минимизации воздействия весенней охоты на водно-болотных птиц позволяет рассматривать данные изменения исключительно как временные и переходные. А ситуацию с более свободными правилами охоты на территориях, находящихся в ведении ООПТ высшего уровня – как своеобразный белорусский природоохранный парадокс.

Напомним, что Беларусь является последней страной в Европе, где разрешена массовая весенняя охота на уток и гусей. АПБ выступает за полный запрет весенней охоты на водно-болотных птиц в Беларуси.

**Виктор Фенчук, директор АПБ**

# Фотоохота – это по-нашему

**Фотоконкурс АПБ продолжается. Еще не поздно разместить свои фотографии в галерее сайта www.birdwatch.by. Здесь вы можете увидеть две фотографии одного из участников конкурса, фотографа Дмитрия Якубовича из Гродно.**



«Будет новый день». Токующий самец кулика-мородунки на закате. Окрестности г. Туров 23.05.2010 Canon EOS 450D, Canon EF 100-400mm f/4.5-5.6L IS US 1/125, f/6.3, ISO-400



Пролётный большой кроншнеп, остановившийся на короткий отдых на затопленном ливнями поле. Гродненский р-н., д.Обухов 13.08.2010 Canon EOS 450D, Sigma 170-500mm APO DG 1/1250, f/8.0, ISO-40

# Навіны аддзяленняў

## У цэнтры ўвагі «Гусак»



У заказніку «Гусак». Фота А. Абрамчука

**У траўні гэтага года Брэсцкае абласное аддзяленне АПБ прыступіла да рэалізацыі праекта пад назвай "Эфектыўнае захаванне лясных экасістэм заказніка "Гусак" пры фінансавай падтрымцы праграмы малых грантаў карпарацыі «ISAR» (ЗША).**

На працягу палявога сезона былі праведзены даследаванні асобных участкаў лясоў высокай прыродаахоўнай каштоўнасці (ЛВПК) Маларыцкага лясгаса. У выніку гэтых даследаванняў у межах заказніка быў выяўлены шэраг месцаабітанняў рэдкіх і ахоўваемых жывёл і раслін, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, напрыклад: шэрага жорава, малога падорліка, арлана-белахвоста, пугача, беласпіннага дзятла, барсука; кадзіла сармацкага, зубніцы клубняноснай, тайніка яйцападобнага, плюшча звычайнага і інш. Частка месцаабітанняў ужо перададзена пад ахову згодна з нацыянальным заканадаўствам.

Акрамя таго быў праведзены палявы навучальны семінар, удзельнікамі якога сталі студэнты біялагічных спецыяльнасцей, супрацоўнікі ДПУ і зацікаўленыя старшакласнікі. У час навучальных экскурсій па ЛВПК удзельнікі семінара мелі магчымасць пазнаёміцца на практыцы з методыкай выяўлення і пашпартызацыі месцаабітанняў жывёл і раслін, а таксама прыняць удзел у актыўнай ахове прыроды. Падчас семінара былі выяўлены 4 месцаабітанні 3 ахоўваемых відаў, развешана больш за 10 штучных гняздоўяў, у тым ліку і для кажаноў.

**Марына Дзямешка, кіраўнік праекта**

## Палявы летнік на Лунінеччыне



Каго ўбачылі будучыя арнітолагі?

**Напрыканцы чэрвеня прайшоў дзіцячы палявы летнік, арганізаваны для вучняў – сябраў АПБ Лунінецкага раёна. На працягу трох дзён яны вывучалі прыроду роднага краю.**

Першы дзень быў прысвечаны вывучэнню птушак рыбгаса "Лахва". Тут дзеці знаёміліся з водна-балотнымі птушкамі. Сустрэча з чубатым нырком, вялікай коўрай, вялікай белай чапляй, белакрылай рыбачкай папоўнілі асабістыя спісы юных бёдуочэраў – удзельнікаў летніка.

На другі дзень летніка быў арганізаваны паход да ракі Прыпяць. Узнагародай за пераадоленыя з цяжкасцямі 18 км маршрута сталі сустрэчы з арланам-белахвостам, вялікім грыцуком, сініцай апалоўнікам і асабліва з белай сініцай.

Экскурсія ў сасновы лес і прагулка уздоўж ракі Смердзь былі асноўнымі мерапрыемствамі апошняга дня. Яны дадалі ў спісы 6 новых відаў, а найбольш каштоўнай дзеці палічылі сустрэчу з чорным буслом.

Вынікам летніка стала знаёмства з цікавымі мясцінамі свайго краю і набыцця навыкі вызначэння некаторых птушак і карыстання палявымі вызначальнікамі і біноклямі.

**Анатоль Нефідовіч, сябра Савета Лунінецкага раённага аддзялення АПБ. Фота аўтара**

## Віцебскае аддзяленне ў Інтэрнэце




**У траўні гэтага года была створана старонка Віцебскага гарадскога аддзялення на сайце Віцебскага дзяржуніверсітэта імя П. М. Машэрава (www.vsu.by). Шукаць: Універсітэт/Грамадскія арганізацыі.**

На старонцы размешчана інфармацыя пра склад Савета аддзялення, яго дзейнасць, а таксама мерапрыемствы і конкурсы, што праводзяцца аддзяленнем. Акрамя таго, прыведзена інфармацыя пра АПБ і ўмовы ўступлення ў арганізацыю. На сайце любы ахвотны можа скапіраваць членскую анкету.

**Галіна Захарава, старшыня Віцебскага гарадскога аддзялення АПБ**

## Осенние дни наблюдений за птицами

BirdLife EuroBirdwatch 10™

**Птицы являются одними из наиболее ярких и привлекательных живых существ, которые населяют практически все природные экосистемы и часто поселяются рядом с людьми в городах и селах. В 2010 году акция приобретает особую значимость, так как 2010 год объявлен ООН годом биологического разнообразия.**

### ЗАЧЕМ

Принимая участие в осенних днях наблюдений за птицами, проводя простейшие подсчеты птиц своей местности, любители природы вносят свой посильный вклад в массовое экологическое мероприятие европейского масштаба. Собранные данные о птицах родного края расширяют наши знания о птицах, особенностях их миграции и становятся дополнительным стимулом к последующему изучению птиц и природы в целом.

### КАК ПРИНЯТЬ УЧАСТИЕ

Для участия необходимо 1–3 октября самостоятельно или с группой друзей или воспитанников выйти на природу и посчитать виды птиц, а также их количество. Все данные необходимо записать в полевой дневник, блокнот или тетрадь. Отмечается также количество птиц, которых не удалось определить. Информацию необходимо сообщить в секретариат АПБ по телефону в Минске (017) 263 06 13, по мобильным телефонам: (029) 223 06 13 (МТС), (029) 101 68 87 (Velcom), по факсу (017) 265 08 11, SMS-сообщением на короткий номер 0841 или по e-mail: info@ptushki.org.

### КОГДА

Наблюдения за птицами проводятся 1–3 октября, в один или несколько из указанных дней. Информацию о количестве и видовом составе птиц, количестве наблюдателей и месте наблюдений можно сообщить сразу после экскурсии. Последний день подачи информации – 3 октября, не позже 16.00.

### ГДЕ

Наблюдения и учеты можно проводить везде, где живут птицы. Это лес, луг, поле, река или озеро. В городе можно посетить ближайший парк, сквер, фруктовый сад или другие места и объекты. В случае если проводится несколько экскурсий в один или разные дни, необходимо учитывать птиц разными маршрутами. Посещение одних и тех же мест нежелательно, т. к. увеличивается возможность повторного учета птиц, что значительно ухудшает результат.

**Расположение наблюдательных площадок 2 октября:**
Борисов: пешеходный мост через Березину, 10.00–13.00
Брест: ул. Набережная, 10.00–16.00
Витебск: Ботанический сад, 10.00–14.00
Гродно: парк Жилибера, 13.00–16.00
Ивановский район: школа д. Ляховичи, 8.00–16.00
Кобрин: парк им. Суворова, 10.00–14.00
Минск: Центральный ботанический сад, 10.00–14.00
Минский зоопарк, 10.00–14.00
Мядель: набережная оз.Мястро, 11.00–13.00
Сенненский район: школа №2 г. п. Богушевск, 9.00–12.00
Алексеничская школа, 9.00–12.00
Слоним: Экологический центр, 10.00–12.00
Слонимский район: урочище Бекевичи, 9.00–12.00
Слуцк: Эколого-биологический центр учащихся, 10.00–12.00
Шумилино: Шумилинское озеро, 9.00–12.00

**Руслан Шайкин, специалист по экологическому образованию**

# Навіны праектаў

## «Акцыя для арлоў і людзей» – новы праект АПБ



**Сям'я малога арляца. Фота Н. Гулінскага**

Выганашчанскія балоты (Івацэвіцкі, Ганцавіцкі і Ляхавіцкі раёны Брэсцкай вобласці) – агромністы забалочаны лясны масіў, што мае статус Міжнароднай тэрыторыі, важнай для птушак. Масіў служыць месцам гнездавання для арланаў-белахвостаў, вялікага і малога падорлікаў, арла-вужаеда, чорнага каршуна, сокалакабца і барадатай кугакаўкі; магчыма, арла-беркута і арла-карліка. Усе гэтыя віды занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

Для захавання мясцовых папуляцый драпежных птушак стартаваў праект АПБ "Акцыя для арлоў і людзей. Захаванне рэдкіх птушак у Выганашчанскім раёне сіламі грамадскасці", мэта якога – звярнуць увагу мясцовага насельніцтва на праблемы птушак, закласці асновы доўгатэрміновага існавання і павелічэння папуляцый рэдкіх і знікаючых драпежных птушак рэгіёна. Праект фінансуецца праграмай малых грантаў амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь.

У чэрвені 2010 года вучні сярэдніх школ г.п. Целеханы, вёсак Выганашчы, Вялікая Гаць, Святая Воля, Амельная, Краі і Рэчкі, якія праводзяць лета ў школьных летніках, змаглі прыняць удзел у палявых экскурсіях, арганізаваных АПБ сумесна з адміністрацыяй заказніка "Выганашчанскі".

З дапамогай захавальнікаў дадзенай тэрыторыі былі праведзены праверка і вопіс больш за 100 гнёздаў драпежных дзённых птушак, соваў і чорных буслоў. 2010 год аказаўся досыць паспяховым для вушастай савы, шуляка-галубятніка і канюка звычайнага. А вось у чорных буслоў чамусьці не ўсё так добра: з двух правераных гнёздаў толькі адно было занята, і ў ім знаходзілася ўсяго адно птушаня.

**Дзяніс Кіцель, спецыяліст АПБ па прыродаахоўных пытаннях**

## Балоты прыцягваюць людзей



**Да многіх куточкаў балота без дапамогі чаўна не дабрацца! Фота С. Сідарука**

З канца траўня да пачатку чэрвеня прайшла серыя міжнародных летнікаў па правядзенню ўлікаў вяртлявай чаротаўкі, што стала ўжо традыцыйным. У 2010 годзе ўлікі праведзены на 19 найбольш значных з 27 вядомых у Беларусі месцах гнездавання віда. У першую чаргу гэта найбуйнейшыя нізінныя балоты Еўропы: балоты Званец і Спораўскае, шэраг балот, размешчаных у поймах рэк Прыпяць, Шчара, Свіслач, а таксама Альманскія балоты і інш.

У сувязі з вялікай плошчай тэрыторыі, якую займае ў нашай краіне вяртлявая чаротаўка, а гэта каля 280 км2, правядзенне ўлікаў было б немагчымым без актыўнай дапамогі валанцёраў. 60 чалавек з Беларусі, Германіі, Латвіі, Нідэрландаў, Польшы і Украіны прашлі праз найбольш цяжкадасяжныя і ў той жа час унікальныя прыродныя тэрыторыі беларускага Палесся. За час улікаў удзельнікі набылі навыкі арыентавання на мясцовасці з выкарыстаннем GPS навігатараў, навыкі картавання птушак, атрымалі магчымасць зносін з аднадумцамі з іншых краін Еўропы.

**Уладзімір Малашэвіч, каардынатар праекта**

## Праект "Забеспячэнне аховы глабальна пагражаемага вялікага арляца ў Беларусі"



**Маленькія вялікія арляцы**

Мэта праекта – стварыць ахоўваемыя зоны вакол гнёздаў вялікага арляца, якія размешчаны ў лясных масівах, дзе вядзецца лесакарыстанне. Усяго планавалася здаць пад ахову лясніцтвам 75 гнёздаў вялікага арляца. Па стану на канец ліпеня 2010 года, праверана 59 месцаў абітання вялікага арляца, на якіх знойдзена і закартавана 42 заселеных гнязда. Для 29 з гэтых гнёздаў падрыхтаваны і перададзены ў раённыя інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя пашпарты ахоўваемых аб'ектаў і ахоўныя абавязацельствы. Яшчэ для 8 гнёздаў дакументацыя знаходзіцца на стадыі дапрацоўкі.

Выклікае трывогу той факт, што на 14-ці тэрыторыях, дзе вялікія арляцы адзначаліся ў 2000–2003 гг., на сённяшні дзень птушкі не былі знойдзены. Як правіла, гэта тычыцца субаптымальных месцаў абітання, трансфармаваных гаспадарчай дзейнасцю чалавека і размешчаных на перыферыі або на вялікай аддаленасці ад палескага папуляцыйнага "ядра" вялікага арляца.

Такім чынам, у ходзе праекта ўпершыню былі атрыманы дадзеныя пра негатыўныя тэндэнцыі колькасці віда ў Беларусі. Да гэтага рэгістравалася толькі няўхільнае зніжэнне паспяховасці гнездавання вялікага арляца на працягу 10 апошніх гадоў пры стабільнай колькасці гняздуючых пар.

**Валерый Дамброўскі, каардынатар праекта**
**Фота аўтара**

# Споровские сенокосы



**Косцы бывают разные...**

7 августа в деревне Здитово, что в Березинском районе Брестской области, было непривычно людно. С самого утра сюда начали подтягиваться машины, собирался народ, устанавливалась звуковая аппаратура – шла подготовка к национальному чемпионату по ручному сенокошению низинных болот «Споровские сенокосы», который проходит здесь в 4-й раз. Идею чемпионата, заручившись поддержкой Королевского общества защиты птиц Великобритании, предложила общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ). Его суть заключается в том, что под раскаленным августовским солнцем, увязая в хлюпающей под ногами жиже, наперегонки прокосить длинную полосу на заболоченном поле.

Чемпионат выявляет лучших в командном и личном зачете. Для того чтобы стать победителем в командном первенстве, дуэту косцов необходимо быстрее и тщательнее всех прокосить полосу шириной 3 м и длиной 100 м. Лидеры по его итогам стартуют на 50-метровой дистанции в индивидуальном зачете. Победители белорусского отборочного тура представляют страну на международном чемпионате по ручному сенокошению.

— Это не просто состязание лучших косарей, а один из способов привлечь внимание общественности к проблемам «легких Европы» — низинных болот, которые являются средой обитания и произрастания редких видов фауны и флоры, — сказал на открытии мероприятия Михаил Кредич, наместник председателя Березовского райисполкома.

Участие в «Споровских сенокосах» приняли 10 команд. Победу с результатом 18 минут 3 секунды завоевала команда заказника «Званец». Индивидуальное первенство выиграл Петр Веришко из сборной МЧС и заказника «Споровский», прокосив полосу за 3 минуты 17 секунд.

**Елена Садовская, сайт www.wildlife.by**
**Фото автора**

# Навіны праектаў

## Мокрыя парады



Вызначэнне якасці вады хімічнымі метадамі

**18-20 чэрвеня 2010 г. на Вілейцы прайшоў семінар-трэнінг для педагогаў і школьнікаў Шумілінскага, Гарадоцкага і Бешанковіцкага раёнаў Віцебскай вобласці па праекце «Назіранне за рэкамі», у якім прынялі ўдзел 40 чалавек.**

Семінар быў прысвечаны вывучэнню воднага заканадаўства Беларусі. Старшы выкладчык МГЛУ Рыгор Фёдараў распавёў пра асноўныя палажэнні воднага права і магчымасці ўдзелу грамадскасці ў ахове водных рэсурсаў. У межах практычнай часткі ўдзельнікам была прапанавана вырашыць праблемную сітуацыю. Паводле ўмовы, яны ўявілі сябе жыхарамі і прадстаўнікамі ўлады аднаго з раёнаў Беларусі, на тэрыторыі якога знаходзіцца ландшафтны заказнік. Тут жа, адразу на беразе возера, камерцыйная фірма прыняла рашэнне будаваць аўтакемпінг. Удзельнікі разабралі спрэчную сітуацыю з улікам інтарэсаў усіх бакоў і абралі найбольш прымальнае рашэнне.

Нашы заняткі былі разнастайнымі. У другой палове дня ўдзельнікі семінара пазнаёміліся з новымі методыкамі вызначэння якасці вады, пра якія распавяла (і нават прадэманстравала іх) выкладчык Гродненскага універсітэта Вольга Крамлёва.

Андрэй Пахоменка з Магілёўскага гідраметцэнтра падрабязна распавёў удзельнікам аб правядзенні дзяржаўнага маніторынгу паверхневых вод. Нашы ўдзельнікі прывезлі з сабой пробы вады са сваіх калодзежаў і крыніц, каб з дапамогай тэст-палосак вызначыць узровень нітратаў. Вынікі прымусілі нас задумацца: якую ваду мы п'ём? І як можна палепшыць сітуацыю?



С Днём нараджэння, Іна!

Наш семінар складаўся не толькі з сур'ёзнай будзённасці. Якраз у гэтыя дні адзначала свой дзень нараджэння Іна Сінкевіч, старшыня Шумілінскага аддзялення АПБ і адна з нашых актыўных сяброў. Мы ад усяго сэрца віншуем яе з васямнаццаціговыдзем і жадаем ёй быць такой жа яркай, як сонца, і так жа шчодра аддаваць цяпло свайго сэрца людзям! ВІНШУЕМ!!!

**Наталля Парэчына, каардынатыр праекта**
**Фота аўтара**

## Захавальнікі паспрабавалі сябе ў палявых умовах



Палявая практыка прымянення ведаў пра FSC сертыфікацыю.

**Гэтым летам для захавальнікаў быў арганізаваны шэраг палявых семінараў, дзе атрыманыя тэарэтычныя веды можна было выкарыстаць на практыцы.**

Захавальнікі ТВП «Сэрвач» унеслі свой уклад ва ўлікі вяртлявай чаротаўкі. Ва ўліках, якія праходзілі 8–12 чэрвеня, самы актыўны ўдзел прынялі пяць захавальнікаў з вёсак Глыбокае і Дзеркаўшчына – па ўзросце ад вучня адзінаццатага класа да пенсіянера.

Захавальнікі ТВП "Сярэдняя Прыпяць" змаглі ў прамым сэнсе наведаць адно з самых загадкавых месцаў Беларусі – калонію бакланаў і чапляў у вусці Лані. У межах семінара быў арганізаваны двухдзённы сплаў на байдарках па Прыпяці. Падчас сплаву захавальнікі не толькі знаёміліся з тэрыторыяй заказніка, але і вучыліся вызначаць птушак у дзікай прыродзе.

У канцы чэрвеня на ТВП "Налібоцкая пушча" быў арганізаваны заключны семінар па праекце, у якім удзельнічалі не толькі захавальнікі Налібоцкай пушчы, але таксама Ельні і Сэрвачы. На міжнародны ўзровень семінар вывелі прадстаўнікі Літоўскага арніталагічнага таварыства, якія распавялі пра дзейнасць захавальнікаў ТВП у Літве. Акрамя падвядзення вынікаў, цікавым пунктам праграмы стала тэарэтычнае і практычнае знаёмства з асновамі лясной сертыфікацыі FSC, якое правёў Георгій Казулька. Незабыўныя ўражанні пакінула наведванне калоніі белага бусла ў пойме ракі Нёман і сустрэча з малым падорлікам – відам, па якому Налібоцкая пушча атрымала статус ТВП.

**Вольга Лукшыц, каардынатар праекта**
**Фото аўтора**

## Птушкі і народнае мастацтва



Народныя танцы заўсёды ў модзе. Фота Д.Кіцеля

**15 ліпеня 2010 года ў межах праекта "Птушкі ўсім узростам даспадобы" адбылася экскурсія ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах. Удзельнікамі праекта сталі людзі пажылога ўзросту і дзеці. Экскурсія праходзіла ў межах праграмы падтрымкі Беларусі Фондам «Памяць, адказнасць, будучыня» (Германія).**

Наша экскурсія пачалася з наведвання гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна Цэнтральная Беларусь. Экскурсавод распавяла пра будынкі, а таксама паказала іх. Мы даведаліся, што ў вёсках рэгіёна фарміраваўся развіты грамадска-культурны цэнтр з будынкамі валаснай управы, царквы, царкоўна-прыходскай школы або народнага вучылішча, карчмы.

Экскурсія была прысвечана тэме "Вобразы птушак у беларускай народнай творчасці і побыце". Мы пазнаёміліся з асаблівасцямі паказу птушак на тканых і вышываных вырабах, на шалёўках вокнаў і вільчаках дахаў. Уразілі нашых удзельнікаў хатняе начынне з выявамі птушак і, вядома ж, калодзеж-журавель у двары.

Лагічным працягам стаў удзел у традыцыйных беларускіх гульнях і забавах на Кірмашовай плошчы. Усе мы дружна спявалі беларускія народныя песні і танцавалі польку. Пасля такога актыўнага занятку ўдзельнікі з асалодай адпачылі і падсілкаваліся ў сапраўднай беларускай карчме.

Пасля экскурсіі ў некаторых бабуль на вачах былі слёзы радасці: за апошнія пяць гадоў яны ўпершыню былі на прыродзе і любаваліся прыгажосцю нашай Беларусі.

**Наталля Парэчына, каардынатар праекта. Фота аўтара**

## Да ўвагі кіраўнікоў клубаў «Крылаты дазор»!

**У 2011–2012 гадах АПБ плануе працягваць праект «Птушкі ўсім узростам даспадобы" на тэрыторыі ўсіх абласцей нашай краіны. Асноўнай мэтай праекта з'яўляецца сацыякультурная рэабілітацыя пажылых людзей, якія перажылі вайну, шляхам уцягвання іх у актыўную прыродаахоўную дзейнасць і назіранне за птушкамі сумесна з дзецьмі.**

Праца будзе ладзіцца на базе школ. У межах праекта будуць арганізаваны штомесячныя сустрэчы (1 раз на 2 тыдні) ветэранаў са школьнікамі. Пад кіраўніцтвам нашых кансультантаў удзельнікі змогуць знаёміцца з відамі птушак, што пастаянна пражываюць непасрэдна вакол школы, даведацца больш пра асаблівасці паводзін і праблемы выжывання відаў, рабіць разнастайныя тыпы штучных гнёздаў і падкормачных пляцовак, дзяліцца ўражаннямі. А ў ветэранаў будзе каштоўная магчымасць зносін з малодшым пакаленнем.

У другі год праекта мы плануем распрацоўку і абсталяванне экалагічных сцяжын і падкормачных пляцовак на тэрыторыі мадэльных школ-удзельнікаў праекта па ўзгадненню з кіраўніцтвам устаноў. Акрамя таго, у гэтых школах будуць абсталяваныя цэнтры заняткаў па інтарэсах «Разам для птушак и людзей!» Цэнтры стануць месцамі для сустрэч і абмеркаванняў для аматараў птушак. Забеспячэнне цэнтраў інфармацыйнымі матэрыяламі АПБ бярэ на сябе.

Для ўдзелу ў праекце заяўкі ў вольнай форме (з указаннем клуба ветэранаў, з якім вы будзеце працаваць) дасылайце да 1 лістапада 2010 года на адрас: vinograd@tut.by або а\с 81, Мінск, 220023

**Каардынатыр праекта**
**Наталля Парэчына,**
**8 029 6434610**

# Северная бормотушка найдена в Беларуси!

**В конце мая Виталием Яковичем, сотрудником Республиканского экологического центра детей и юношества, в Пуховичском районе Минской области отмечен поющий самец северной бормотушки (Hippolais caligata).**



Виталий является признанным в Беларуси специалистом по голосам птиц, и именно необычный голос изначально привлек к себе внимание. Кстати, название птицы – бормотушка – связано с ее голосом. Песня представляет собой набор торопливых трелей, издаваемых сериями по 4–6 сек. Более всего песня похожа на «говорок» садовой славки, но тише, монотоннее и суше, с приятным легким хрустальным перезвоном.

Несколько дней спустя Виталий, благодаря технической поддержке АПБ, снял бормотушек на видео. На видеозаписи можно хорошо рассмотреть птиц и послушать их голоса. Что интересно, им наблюдались сразу три самца! Видеоматериалы находятся в офисе АПБ.

Ранее этот вид, родственник нашей зеленой пересмешки, на территории Беларуси орнитологами не регистрировался. Таким образом, после рассмотрения этого наблюдения белорусской орнитофаунистической комиссией северная бормотушка может пополнить списки видов птиц Беларуси.

**Семен Левый, специалист по природоохранным вопросам**

# Новы супрацоўнік




**Дзяніс Кіцель,** новы спецыяліст АПБ па прыродаахоўных пытаннях. Нарадзіўся ў г. Маларыта Брэсцкай вобласці, дзе пачаў свае першыя назіранні за дзікімі жывёламі, якія апісваў у рэспубліканскім часопісе «Мир животных». Дзякуючы перапісцы з В. В. Жукоўскім (в. Дэколы Баранавіцкага раёна) у 2003 годзе прыехаў на VI з'езд АПБ, перакананы, што будзе займацца вывучэннем адзінкавых вос усё жыццё. Праз некаторы час пасля з'езда змяніў сваё меркаванне і пачаў назіраць за птушкамі. З гэтага часу – член АПБ. З 2009 г. – старшыня Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення АПБ. Лічыць, што меў рацыю Дж. Дарэл, што адзіна правільным спосабам выратавання прыроды з'яўляецца актыўная праца з дзецьмі, чые галовы яшчэ не затуманены бязглуздымі ідэямі матэрыяльнага свету.

# ВІНШУЕМ!

**7 жніўня споўнілася 50 год Васілю Вітальевічу Грычыку – аднаму з самых вядомых арнітолагаў Беларусі з энцыклапедычнымі ведамі не толькі наконт нашых птушак, але таксама і экалогіі жывёл, і гісторыі нашай краіны.**



**Васіль Вітальевіч** скончыў біялагічны факультэт БДУ у 1982 г., праз 10 год абараніў кандыдацкую дысертацыю «Фенагеаграфія палімарфізму жоўтых плісак у сувязі з праблемамі сістэматыкі і генезісу комплекса Motacilla flava». Амаль увесь час працуе на біяфаку БДУ, дзе загадвае кафедрай агульнай экалогіі і методыкі выкладання біялогіі. У альма матэр чытае курсы «Методыка выкладання біялогіі», «Методыка выхаваўчай работы», «Экалогія і рацыянальнае прыродакарыстанне» і «Раслінныя і жывёльныя рэсурсы, рацыянальнае выкарыстанне, ахова».

У мінулым годзе абараніў доктарскую дысертацыю «Харалагічная структура сучаснай арнітафаўны Беларусі ў аспекце папуляцыйна-біялагічнай канцэпцыі падвіда».

Шмат гадоў быў сябрам Цэнтральнага Савета АПБ, цяпер – Старшыня Рэвізійнай камісіі нашай арганізацыі. В. В. Грычык – навуковы рэдактар беларускага арніталагічнага бюлетэня "Subbuteo" і галоўны рэдактар навукова-метадычнага часопіса «Біялогія: праблемы выкладання», аўтар амаль 90 навуковых артыкулаў і кніг.

Шчыра віншуем з юбілеем і жадаем і надалей падтрымліваць вакол сябе высокі ўзровень дыскусій, атмасферу зацікаўленасці ведамі і мяккі гумар! Новых дасягненняў на карысць людзей і птушак!

**Сто год!**

**Сябры і калегі**

## Што значыць BirdLife International?

З такім пытаннем звярнуўся да нас адзін з нашых сяброў. Насамрэч вы часта можаце сустрэць зварот, што АПБ з'яўляеўцца партнёрам BirdLife International у Беларусі.

BirdLife (з анг. – "жыццё птушак") не з'яўляецца самастойнай арганізацыяй, а складаецца з няўрадавых арганізацый больш чым 100 краін свету, якія займаюцца захаваннем птушак, месцаў іх пражывання і сусветнай біяразнастайнасці.

**Усе разам арганізацыі маюць:**

- Больш за 4 000 чалавек, якія працуюць дзеля захавання біяразнастайнасці;
- Каля 2 500 000 сябраў ва ўсім свеце;
- 10 000 000 прыхільнікаў;
- Каля 1 000 000 гектараў прыроды, якая знаходзіцца ва ўласнасці ці пад упраўленнем арганізацый-партнёраў.

Для каардынацыі дзейнасці партнёраў BirdLife мае сакратарыят, які размяшчаецца ў Англіі, а таксама офісы для кожнага з рэгіёнаў свету. Еўрапейскі офіс знаходзіцца ў Бельгіі і складаецца з 14 чалавек.

**Партнёрскія арганізацыі супрацоўнічаюць у межах рэгіянальных і глабальных праграм. Глабальныя праграмы ўключаюць:**

- Змяненне клімата;
- Праграма па марскіх птушках;
- Праграма па пералётных птушках;
- Прадухіленне знікнення відаў;
- Лясы надзеі;
- Тэрыторыі, важныя для птушак (навіны з Беларусі па гэтай праграме шукайце у нумары).

Адным з прыкладаў рэгіянальнай праграмы з'яўляецца супрацоўніцтва па захаванні вяртлявай чаротаўкі.

Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 3(42) - 2010

АПБ з'яўляецца эксклюзіўным партнёрам BirdLife International у Беларусі

(с) АПБ, 2010 Інфармацыйны бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны"
Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
Перадрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны", АПБ
Галоўны рэдактар: Віктар Фянчук
Рэдакцыйная рада: Кацярына Ціхно, Сяргей Зуёнак, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін, Сямён Левы
Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі
Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна – далучайцеся да сяброў АПБ.

Для гэтага тэлефануйце або прыходзьце да нас:
вул. Макаёнка 8, пак.313 г. Мінск
тэл. (017) 263-06-13,
(017) 263-01-30
факс (017) 265-08-11
мтс (029) 223-06-13,
velcom (029) 101-68-87
e-mail: info@ptushki.org
**www.ptushki.org**

Наш паштовы адрас:
а/с 306 Мінск 220050 Беларусь
Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 2714 ад 27.06.2008.
Надрукавана ў УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Тыраж 700 паас.
Замова № 11914.